наша
# свабода

№23 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 ТРАЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Маразы выпаляць бюджэт

**Наталля РАДЗІНА**

**Здаецца, сёлета нізкі ўраджай ўсе ж такі прыйдзецца спісаць на надвор'е. Травеньскія маразы пашкодзілі значна больш вясенніх пасеваў, чым у мінулым годзе.**



Фота IREX/ProMedia

У міністэрстве сельскай гаспадаркі агульную лічбу пашкоджанняў аграрнага сектара ад нечаканых катаклізмаў прыроды карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ даць адмовіліся. Трэба разумець, лічбы настолькі жахлівыя, што абнародаваць іх проста небяспечна. Адзінае, што змог паведаміць намеснік старшыні галоўнага ўпраўлення земляробства і раслінаводства Уладзімір Куратнік, – гэта тое, што «сэрца і без таго баліць за нашу гаспадарку, няма чаго гэтыя лічбы смакаваць!»

Мы вырашылі прасачыць храналогію апошніх паведамленняў пра сельскагаспадарчыя страты ў некаторых абласцях і раёнах – праз іх можна ўбачыць агульную карціну.

Моцны ўраган пранёсся па ўсходняй частцы Магілёўскай вобласці ноччу з 12 на 13 траўня. Скорасць ветру ў асобных месцах дасягала 24 метраў у секунду. Пацярпелі Клімавіцкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі і Мсціслаўскі раёны. У Касцюковіцкім раёне шквалісты вецер выдзьмуў 2,5 тысячы га вясенніх пасеваў.

Травеньскія маразы сталі прычынай надзвычайнай сітуацыі і ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці: тут, па апошніх дадзеных, змерзла каля 2 тысяч га зерневых, практычна 20 % пасевных плошчаў. Толькі па прыблізных падліках, урон складае каля 2 мільярдаў рублёў. Акрамя зерневых культур, ад прыродных катаклізмаў пацярпелі вялізныя плошчы кармавых траваў, у выніку чаго ўзнікла вялікая праблема з выпасам жывёлы. У цэлым па вобласці знішчана каля 6 тысяч га зерневых, асабліва пацярпелі азімыя.

Гаспадаркі Мінскай вобласці больш за іншыя ў краіне пацярпелі ад травеньскіх замаразкаў. На Міншчыне загінула звыш 129 тысяч га пасеваў і больш за 11 тысяч га аказаліся пашкоджанымі.

Моцны вецер 13 траўня пагоршыў пажарную сітуацыю на Гомельшчыне, там ужо колькі дзён гараць тарфянікі і лясы. У дзень па вобласці адбываецца да 10 пажараў.

У Гродзенскай вобласці, дзе тэмпература паветра ўначы дасягала –7, пашкоджаная прыблізна чвэрць усіх пасеваў, ці 131 тысяча га.

У Брэсцкай вобласці толькі 11 траўня было знішчана 43 тысячы га пасеваў. Але замаразкі працягваліся...

Хаця цяпер ужо час займацца нарыхтоўкай кармоў, памёрзлыя палі прыйдзецца засяваць зноў. Дзеля гэтага пацярпелым абласцям патрабуецца новы валютны крэдыт. Кіраўнікі калгасаў у роспачы — дзе ўзяць грошы? Таварны крэдыт калгасамі ўжо цалкам патрачаны. На днях урад вырашыў выдзеліць валютны крэдыт у памеры 4,5 мільёнаў долараў на набыццё за межамі краіны дадатковай колькасці насенных сельскагаспадарчых культураў, мінеральных і хімічных угнаенняў, сродкаў аховы раслінаў. Аграрыям патрэбны грошы і на паліва, на якое «Белнафтахім» для іх адмяніў усе льготы. Калі раней аграпрамысловы комплекс атрымліваў дызпаліва па 140 рублёў за літр, то цяпер яму прыйдзецца плаціць па 203 рублі. Раней «Белнафтахім» абяцаў забеспячэнне патрэбы АПК на 80%, але ў яго планы не ўваходзіла забяспека гэтых патрэбаў двойчы за вясеннюю пасяўную. А на новую пасяўную патрабуецца не адна сотня тысяч тонаў дызпаліва...

Між іншым, не так даўно віцэ-прэм'ер Аляксандр Папкоў, адказны за сельскую гаспадарку, упэўнена абяцаў, што калі летась ураджай збожжавых склаў каля 3,7 мільёна тон, то ў гэтым годзе ён абавязкова павялічыцца амаль ў 2 разы і будзе складаць 6 мільёнаў тон. Тады ён ухіліўся ад пытанняў журналістаў: што будзе, калі абяцаны ўраджай сапсуе дрэннае надвор'е? Можа, спадзяваўся на галоўнага сіноптыка ў дзяржаве, бо той напачатку пасяўной упэўнена заявіў, што спісаць нізкі ўраджай на катаклізмы надвор'я не будзе дазволена нікому.

Прырода паднесла Беларусі надзвычай непрыемны сюрпрыз. І сельскую гаспадарку, і кожнага з нас чакае цяжкі год. ■

# Ford апусціў рукі

## Амерыканскія інвестары ўцякаюць з Беларусі

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Сусветна вядомая карпарацыя *Ford Motor Company* спыняе вытворчасць аўтамабіляў на заводзе пад Мінскам. Пра гэта афіцыйна паведаміла ў пятніцу кіраўніцтва кампаніі.**



Апошні аўтамабіль беларускай зборкі пакіне сцены завода ў пасёлку Абчак Мінскай вобласці ў ліпені гэтага года.

Нагадаем, што завод сумеснага прадпрыемства «Форд Юніан» урачыста адкрыўся ў 1997 годзе. Кантрольны пакет акцыяў СП (51%) належыць *Ford Motor Company*, 26% мае беларуская дзяржава, а 23% – кампанія «Лада ОМС». Завод збіраў з замежных камплектуючых дзве мадэлі аўтамабіляў: легкавікі *Ford Escort* і мікрааўтобусы *Ford Transit*. Кацтавалі яны па беларускіх мерках нямала – 13 тысяч долараў за *Escort* і 18 тысяч – за *Transit*. Праектная магутнасць завода — 6 тысяч аўтамабіляў у год, аднак рэальны выпуск прадукцыі быў куды меншы. Напрыклад, летась на заводзе «Форд Юніан» было сабрана толькі 440 легкавікоў і мікрааўтобусаў. Гэта напрамую звязана з крызісам у Расіі.

Справа ў тым, што прадпрыемства «Форд Юніан» адразу пачынала працаваць з разлікам на расійскі рынак. Як паведамілі нам у яго ягонай прэсслужбе, у Беларусі прадавалася не больш за 15% усёй прадукцыі завода, усё астатняе ішло ў Расію. Аднак расійскі крызіс 1998 года паказаў марнасць спадзяванняў кампаніі – для большасці кліентаў стала немагчыма набываць аўтамабілі нават беларускай зборкі. Тым болей, што Расія адмовілася прызнаць «форды», што збіраліся ў Абчаку, уласна беларускай прадукцыяй – і абклала істотнымі мытнымі пошлінамі.

Цікава, што падчас свайго выступу на прэс-канферэнцыі ў Лондане прэзідэнт еўрапейскага падраздзялення карпарацыі Нік Шыл казаў пра «закрыццё» завода ў Мінску. А прэс-рэліз, разасланы мясцовымі прадстаўнікамі *Ford*, кажа толькі пра «спыненне вытворчасці мадэляў *Escort* і *Transit*». Вельмі падобна да захавання «добрай міны пры кепскай гульні». ►

*Заканчэнне на стар.2*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сёння з працоўным візітам у Мінск прыязджае прэм'ер-міністр Украіны Віктар Ючшанка.** Як паведамляе міністэрства замежных справаў Беларусі, падчас візіту кіраўнік украінскага ўрада правядзе перамовы з А.Лукашэнкам, а таксама з сваім беларускім калегам Уладзімірам Ярмошыным. В.Ючшанка таксама наведае амбасаду Украіны ў Беларусі і агледзіць месца, дзе ў бліжэйшы час мяркуецца ўзвесці помнік Тарасу Шаўчэнку.

■ **Беларусь страціць сваю нацыянальную валюту 1 студзеня 2005 года.** Такую сенсацыйную навіну паведаміў карэспандэнту расійскай газеты «Ведомости» намеснік старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Павел Калаўр. Па яго словах, у гэты дзень будзе ўведзеная ў абарот адзіная валюта Саюза Беларусі і Расіі. Да гэтага часу будзе праведзеная «мяккая прывязка» беларускага рубля да расійскага – як сцвярджае П.Калаўр, яна пачнецца ўжо ўвосень гэтага года. Канчатковы механізм «мяккай прывязкі» пакуль не распрацаваны. Вядома толькі, што Цэнтрабанк Расіі можа прадаставіць крэдыт у 150-200 мільёнаў долараў беларускаму Нацбанку для стварэння стабілізацыйнага фонду беларускага рубля. 12 траўня на базе вучэбнага цэнтра Цэнтрабанка Расіі ў пасёлку Клязьма Маскоўскай вобласці падчас чарговага пасяджэння Міжбанкаўскага валютнага савета Беларусі і Расіі быў узгоднены праект пагаднення «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра ў Саюзнай дзяржаве». У паседжанні ўзялі ўдзел кіраўнікі цэнтральных банкаў Расіі і Беларусі Віктар Герашчанка і Пётр Пракаповіч, іх першыя намеснікі Тацяна Парамонава і Павел Калаўр, іншыя прадстаўнікі цэнтральных банкаўскіх установаў дзвюх краінаў. Паводле звестак з Нацыянальнага банка Беларусі, неўзабаве тэкст пагаднення «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра ў Саюзнай дзяржаве» павінен быць прадстаўлены на разгляд урадаў Беларусі і Расіі. Пра тое, ці ўдалося цэнтрабанкам дзвюх краінаў дасягнуць кампрамісу ў пытанні аб будучым эмісійным цэнтры, у Нацбанку пакуль не паведамляюць. Раней беларускі бок прытрымліваўся меркавання, што ў будучай саюзнай дзяржаве варта стварыць Сістэму цэнтральных банкаў.

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 960

# Чешский сенат осудил режим Лукашенко

Наталья РАДИНА

**Комитет по внешней политике сената Чехии принял резолюцию, осуждающую режим Лукашенко. Документ в резкой форме критикует «массовое нарушение прав человека» в Беларуси.**

В резолюции утверждается, что режим Лукашенко является «нелегитимным», «находится в противоречии с основными демократическими нормами» и «обнаруживает признаки тоталитаризма». Авторы документа призывают белорусское руководство, чешское правительство и международное сообщество «поддержать восстановление прав человека и демократических свобод в Белоруссии и обеспечить их уважение». В ответ на это посольство Беларуси в Праге передало комитету ноту, в которой высказало непонимание активной заинтересованности чешского сената проблемой прав человека в Беларуси. О нарушениях прав человека белорусские дипломаты очень дипломатично сказали, что «конечно, в Беларуси есть место нарушениям человеческих прав, но речь же не идет про массовые нарушения»

Но чешские парламентарии, похоже, этой проблемой заинтересовались всерьез: сенаторы Ян Румл и Михал Жантовский даже участвовали в «Чернобыльском Шляхе» в Минске.

После поездки Ян Румл написал статью «Двоякий подход к Беларуси», и нота белорусского посольства в значительной мере посвящалась этой статье – Я.Румла осуждали за оскорбительные высказывания и неуважение А.Лукашенко.

Резолюция в ближайшее время будет предложена на утверждение верхней палаты чешского парламента. ■

# Праўда пра Чачню – з Мінска?

Аляксей СТАЎСКІ

Прэс-служба ўкраінскай арганізацыі Украінская Нацыянальная Асамблея-Украінская Нацыянальная Сама-Абарона (УНА-УНСА), распаўсюдзіла інфармацыю, згодна з якой у Мінску ў хуткім часе будзе адкрыты філіял інфармацыйнага цэнтра «Свабодны Каўказ». Гэты інфармацыйны цэнтр, дэкляраванай мэтай якога з'яўляецца ўсебаковае і аб'ектыўнае асвятленне падзеяў у Чачні, ужо займеў раней падобныя філіялы на Украіне: у Львове, Кіеве, Роўна. Тады іхняя арганізацыя выклікала надта негатыўную рэакцыю Расіі, якая напрамую зацікаўленая ў нераспаўсюджванні дастаткова поўнай інфармацыі з Чачні. Улады Украіны заявілі тады, што яны не маюць ніякага дачынення да арганізацыі гэтых філіялаў, а забараніць іх арганізацыю немагчыма згодна з заканадаўствам.

Але ж у Беларусі з Расіяй значна больш цесныя стасункі, чым у Расіі з Украінай. Факт з'яўлення на Беларусі падобнага інфармацыйнага цэнтра можа выклікаць выбух прамога незадавальнення саюзнікаў.

У беларускіх партыях найбольш правай арыентацыі ніяк не пракаментавалі паведамлення УНА-УНСА, заявіўшы, што не маюць ніякай інфармацыі на гэты конт. Гэта і нядзіўна, улічваючы, што пачынаючы з 1997 года стасункі з гэтай нацыяналістычнай арганізацыяй з Украіны сапсаваліся нават у прадстаўнікоў БНФ. ■

# Правы грамадзянаў на мітынгі

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**«Я не хачу ісці пад суд з-за таго, што некага задушаць падчас чарговай вулічнай акцыі апазіцыі», — заявіў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Віктар Чыкін пры сустрэчы з журналістамі на прэс-канферэнцыі «Аб рэалізацыі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь канстытуцыйнага права на мітынгі, сходы, шэсці і захаванні пры гэтым патрабаванняў заканадаўства».**




Прыхільнікам інтэграцыі і В.Чыкіну можна мітынгаваць усюды

Менавіта такім нежаданнем ён і патлумачыў шматлікія адмовы ў заяўках на правядзенне масавых акцыяў на шматлюдных плошчах Мінска, такіх, напрыклад, як плошча Якуба Коласа. Па яго словах, у горадзе для гэтых мэтаў падрыхтаваныя некалькі месцаў – парк Дружбы народаў на плошчы Бангалор, парк 50-годдзя Вялікага Кастрычніка і пляцоўка ля цыркшапіто. Асабліва нахвальваў Чыкін «Кастрычніцкі» парк, які знаходзіцца ля станцыі метро «Партызанская». І пляцоўка на 20 тысяч чалавек, маўляў, там падрыхтаваная, і маецца стацыянарная трыбуна з падключанай электрычнасцю, і сам парк можа змясціць да 120 тысяч чалавек («хаця апазіцыя столькі ніколі не збярэ» – не забыўся дадаць В.Чыкін). Пры гэтым, на ягоную думку, парк знаходзіцца амаль у самым цэнтры горада. Карацей, мітынгуй – не хачу. Вось менавіта гэтае «не хачу» беларускай апазіцыі праводзіць свае мерапрыемствы ў вызначаных і добраўпарадкаваных клопатамі Мінгарвыканкама месцах, а таксама ўпартае жаданне апазіцыі маршыраваць па галоўных вуліцах і праспектах сталіцы і здзіўляе намесніка старшыні Мінгарвыканкама. На плошчах Незалежнасці ці Кастрычніцкай, згодна з дэкрэтам прэзідэнта №36, могуць праходзіць толькі мерапрыемствы, ініцыяваныя дзяржаўнымі органамі ўлады ў дні дзяржаўных святаў. В.Чыкін сцвярджаў, што ў такіх выпадках улада бярэ на сябе адказнасць за бяспеку грамадзянаў. Чым скончылася такая дзяржаўная адказнасць амаль год таму ў пераходзе метро «Няміга» – памятаюць усе. А вось улада зрабіла з той жудаснай трагедыі даволі своеасаблівыя высновы – апазіцыю, каб не падавілі адзін аднаго, адправілі мітынгаваць за горад, а ўвесь астатні народ па-ранейшаму працягваюць спойваць у цэнтры падчас правядзення ў горадзе розных святаў. У прынцыпе ж, сказаў В.Чыкін, Мінгарвыканкам вельмі рэдка адмаўляе ў правядзенні той ці іншай акцыі. Напрыклад, з 1 студзеня па 11 мая 2000 года з 158 было адмоўлена толькі ў васьмі выпадках. Такія вынікі маглі б паправаць, калі б не ведаць, што ў большасці выпадкаў быў зменены фармат мерапрыемства – напрыклад, замест шэсця і мітынгу дазвалялі праводзіць толькі мітынг, што, дарэчы, абсалютна незаконна.

В.Чыкін на прэс-канферэнцыі настойліва падкрэсліваў, што ў сферы рэгламентацыі масавых акцыяў у Рэспубліцы Беларусь пануе толькі закон. Каб пераканацца, што такое можа пакуль толькі прысніцца, дастаткова хоць раз паспрабаваць атрымаць дазвол мінскіх уладаў на правядзенне шэсця з мітынгам пад апазіцыйнымі лозунгамі. Можна быць упэўненым, што дазволена будзе далёка не ўсё, і пры тым з грубымі парушэннямі заканадаўства.

На думку старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, пасля таго, як «Чарнобыльскі Шлях», насуперак усім заканадаўчым актам, быў дазволены толькі за суткі да яго правядзення, як шэсце на Дзень Волі было забароненае па любым маршруце, як у большасці раённых цэнтраў мясцовыя ўлады патрабуюць з апазіцыйных партыяў плату за правядзенне мітынгаў і пікетаў, казаць пра рэалізацыю канстытуцыйнага права на правядзенне дэманстрацыяў і сходаў не даводзіцца. ■

# Бразаускас возвращается в политику

Вероника ЧЕРКАСОВА

**На прошлой неделе в Минске гостил бывший президент Литовской Республики Альгирдас Бразаускас. Поводом для его визита в Беларусь стало вручение ему диплома почетного доктора по политическим наукам Европейского гуманитарного университета. 11 мая г-н Бразаускас выступил с лекцией в Международном образовательном центре и ответил на вопросы слушателей и журналистов.**



По мнению бывшего президента, Литва является примером того, как можно мирно и бескровно пройти путь от диктатуры к демократии. Сегодня средняя заработная плата в Литве составляет 320 долларов в месяц, а пенсия — 85 долларов.

Страна готовится к вступлению в Евросоюз – это, по мнению г-на Бразаускаса, единственно верный путь, который способен сделать Литву полноправным членом европейского содружества государств.

О своей встрече с Александром Лукашенко Альгердас Бразаускас говорил очень сдержанно. По его словам, речь в основном шла о выборах, которые в октябре этого года состоятся как в Беларуси, так и в Литве.

Сегодня в белорусско-литовских отношениях особых проблем не возникает, и создается впечатление, что о долге за электроэнергию Игналинской АЭС, который по разным оценкам составляет от 50 до 70 миллионов долларов, обе стороны деликатно «забыли».

Недоумение и удивление у бывшего литовского президента вызывает идея создания трехсоттысячной военной группировки на границе Беларуси и России. По его мнению, сегодня не те времена, чтобы в Европе создавать армию. Кроме того, не ясно, против кого она будет воевать.

Отвечая на вопрос журналистов о последствиях знаменитого «покушения на Лукашенко», которое якобы планировалось во время Вильнюсского саммита в 1997 году, г-н Бразаускас сказал, что после этой «утки» был снят министр внутренних дел Литвы. Причиной его отставки было то, что он получил ложную информацию и обнародовал ее, не проверив, — это породило целую волну недостоверных слухов. Вспоминая время, когда он был президентом, г-н Бразаускас сказал, что самым сложным для него было принятие решений о помиловании и исполнении приговора о смертной казни.

Альгирдас Бразаускас собирается вернуться в политику. Сейчас он пытается объединить перед выборами в Сейм все социал-демократические силы страны. Дальнейшие свои действия он связывает с результатами выборов. ■

ЗАМЕЖЖА

# Венгры супраць танкаў

Ірына СТАРЦАВА



Вайсковыя вучэнні краінаў NATO выклікалі вялікую незадаволенасць уладаў Венгрыі, на тэрыторыі якой гэтыя вучэнні адбываюцца. Рэгіянальнае кіраўніцтва некалькіх населеных пунктаў, што месцяцца непадалёк артылерыйскага палігона ля горада Варпалота, патрабавала кампенсацыі ў памеры 100 мільёнаў форынтаў – за шкоду, нанесеную падчас папярэдніх вучэнняў з удзелам галандскіх вайскоўцаў.

У той час манеўры істотна пашкодзілі сельскагаспадарчыя землі і сады, разбілі дарогі і знішчылі частку рэліктавых лугоў. У прыватнасці, лясная гаспадарка «Верга» патрабуе каля 5 мільёнаў форынтаў на аднаўленне дарогаў і больш за мільён – у якасці кампенсацыі за дрэвы, што былі высечаныя галандскімі жаўнерамі дзеля маскіроўкі танкаў. Жыхары выказваюць справядлівую занепакоенасць, што падчас цяперашніх вучэнняў шкода можа быць яшчэ большай. Яны гатовыя неадкладна распачаць масавыя акцыі пратэсту супраць правядзення аналагічных «мерапрыемстваў» і перакрыць усе дарогі ў раёне правядзення вучэнняў. ■

# Расія засталася ў Еўропе. Надоўга?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**«Вартым жалю» называе замежная прэса рашэнне Камітэта міністраў Еўропы пакінуць Расію паўнавартасным чальцом Савета Еўропы.**

Як мы ўжо паведамлялі, 6 красавіка гэтага года заканадаўчы орган Савета Еўропы – Парламенцкая асамблея – прыняла рашэнне аб выключэнні Расіі з СЕ. Краіна, дзе ракой льецца кроў, дзе на кожным кроку парушаюцца правы чалавека, не можа на роўных з цывілізаванымі краінамі ўваходзіць у такую паважаную міжнародную арганізацыю, як Савет Еўропы, сцвярджалі парламентарыі. Тым не менш, у СЕ апошняе слова заўсёды застаецца за выканаўчым органам – Камітэтам міністраў замежных справаў. У мінулы чацвер у Страсбургу (Францыя) гэты камітэт прыняў вельмі мяккае рашэнне па Расіі – міністры толькі выказалі сваю заклапочанасць з нагоды цяперашніх расійскіх падзеяў і заклікалі Расію ўсё ж вырашаць гуманітарныя праблемы і весці перамовы.

На паседжанні кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў не прысутнічалі міністры лідзіруючых краінаў – Вялікабрытаніі, Германіі і Францыі. Яны прыслалі замест сябе сваіх прадстаўнікоў. Замежныя эксперты мяркуюць, што гэтыя вядомыя і паважаныя палітыкі проста не пажадалі браць на сябе адказнасць за такое мяккае рашэнне. Міністр замежных справаў Расіі Ігар Іваноў, які таксама прысутнічаў на страсбургскім саміце, выглядаў пераможцам. Так ці інакш, Расія адстаяла сабе права на цёплае месцейка пад еўрапейскім сонцам. Вось толькі ці надоўга?

Тым часам еўрапейскія газеты не шкадуюць агідных словаў для Савета Еўропы за праяўленую мяккасць. Аўстрыйская *Die Presse* піша, што рашэнне Камітэта міністраў Еўропы па Расіі вартае жалю. «Уладзіміру Пуціну і ягоным генералам не варта асцерагацца ўмяшальніцтва NATO ў сувязі з вайной у Чачні, як гэта адбывалася ў Косаве, – піша *Die Presse*. – Хаця б таму, што ніхто ў NATO нават на секунду не задумваецца над тым, каб прадпрыняць такую акцыю супраць расійскай арміі». Нягледзячы на тое, што Расія адкрыта цынічна ставіцца да правоў чалавека, Захад ацэньвае згвалтаванні, катаванні, з'яўленне шматлікіх уцекачоў на Паўночным Каўказе не так, як на Балканах, зазначае газета. І ўсё чаму? Таму што Расія на сённяшні дзень мае другі па істотнасці ядзерны арсенал у свеце. Сварыцца з такой краінай ніхто не хоча.

«Маскоўскія калегі пускаюць пыл у вочы міністраў замежных справаў: расказваюць ім пра буйное дасягненне пра новы камітэт па Чачні ў Думе. Міністры «б'юць у далоні» гэтаму мерапрыемству ў сваім камюніке, і гэта вартае жалю. Лепш бы Камітэт міністраў увогуле маўчаў».

Яшчэ больш катэгарычна выглядае пазіцыя швейцарскай *Neue Zuercher Zeitung*: «Рашэнне па Расіі азначае смерць Савета Еўропы».

Прыняўшы камюніке па Расіі, Камітэт міністраў Савета Еўропы ўпусціў шанц вярнуць страчаны давер, піша выданне. Міністры заявілі, што Масква зрабіла адпаведныя крокі, пабачыўшы заклапочанасць Савета Еўропы ў сувязі з Чачнёй. Атрымоўваецца, што Парламенцкая асамблея толькі адняла час у дыпламатаў, калі параіла ім прыпыніць членства Расіі ў СЕ.

Відавочна, што вайна з тэрарыстамі неабходная,– аднак гэта не апраўданне для вайны супраць цывільнага насельніцтва, падкрэслівае *Neue Zuercher Zeitung*. Або не толькі ў Маскве, але і ў Страсбургу праваўая дзяржава – гэта толькі прыгожае спалучэнне словаў? Галоўнае пытанне – гэта не толькі сама вайна ў Чачні, якой бы жахлівай яна ні была. Важней за ўсё тое, што імем Савета Еўропы палітыкі здрадзілі фундаментальным каштоўнасцям. «Душа Савета Еўропы – праз 51 год і 1 тыдзень пасля нараджэння – памёрла. Цела арганізацыі працягвае існаваць. Але палітычны ўплыў знік, а маральныя патрабаванні – тым болей», – піша швейцарскае выданне. ■

# Бяжым, аж вецер свішча

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Хуткасць, з якой губляла кошт валюта той ці іншай краіны СНГ, яскрава сведчыла пра адметнасць эканамічнага курсу, якога прытрымлівалася яе кіраўніцтва.**

Асноўная прычына інфляцыі ў тым, што ўрад друкуе грошы, не забяспечаныя таварнай масай або валютнымі запасамі краіны, каб надзяліць імі тых, хто гэтыя грошы зарабіць не можа ў прынцыпе. У рэшце рэшт, колькасць грошай робіцца большай за патрэбную, яны становяцца таннымі, а выгады ад гэтага атрымоўваюць тыя, хто іх не зарабляе. Вельмі выгадна, прыкладам, атрымаць ільготны крэдыт на будаўніцтва катэджа тэрмінам на 50 гадоў, бо выплаціць яго можна будзе ўжо праз год за адну зарплату – па намінальнай вартасці інфляцыя зробіць яе роўнай суме атрыманага крэдыту.

Вельмі многія блізкія да ўлады ды самі ўладныя людзі за апошнія гады атрымалі такія выгады. А вось тым, каму грошы, каб іх атрымаць, трэба спачатку зарабіць, інфляцыя прынесла адну толькі шкоду. Бо калі працаўнік са сваім заробкам прыходзіць у краму, то аказваецца, што, прыкладам, кілаграм каўбасы каштуе ў два разы болей, чым раней. А што казаць пра калгасніка, якому грошы, заробленыя за тое, што нехта ўжо даўно з'еў, аддаюць праз 2-3 месяцы. Калі ад іх застанецца хіба палова. Заробкаў калгасніка і так хапае толькі на хлеб, соль і запалкі, а што рабіць, калі, як гэта адбылося ў красавіку, хлеб масавых сартоў даражэе больш чым на чвэрць?

Зразумела, што, «узяўшы ў арэнду» друкарскі станок, улады перш-наперш забяспечваюць уласныя патрэбы. Прыкладам, дзеля таго, каб атрымаць шырокую падтрымку, грошы друкуюцца на тое, каб «запусціць заводы». Тое, што яны не канкурэнтаздольныя, ва ўвагу не прымаецца. Таму яны быццам бы і запушчаныя, але заробкаў людзей, на іх занятых, не хапае нават на сумнавядомы спажывецкі кошык.

За тры месяцы бягучага года «дэнамінаваны» беларускі рубель падзешавеў на 32%, што з'яўляецца самым высокім паказчыкам сярод усіх краінаў. У красавіку, па папярэдніх разліках, спажывецкія цэны павялічыліся не менш за 6%. Таму застаецца толькі гадаць, калі зноўку большасць з нас стане рублёвымі мільянерамі.

Ці ўзяць такую вось дэталь. Лічыцца, што наша эканоміка працуе ў рынкавых умовах. Але калі так, то рынак гэты вельмі своеасаблівы, з беларускім, што называецца, тварам. Таму, у прыватнасці, што пры капіталізме існуюць толькі два тыпы прадпрыемстваў. Адны з іх, грамадскія, клапоцяцца не столькі аб прыбытках, колькі аб тым, каб забяспечыць сацыяльнымі паслугамі тых, каму гэта належыць. Прыкладам, уявіце турму, якая працуе па прынцыпах камерцыйнага разліку. Цяжка. Хоць пэўна нейкая частка больш якасных паслугаў больш аўтарытэтным вязьням аказваецца менавіта за грошы. Ці ўзяць супрацьпажарную ахову. Пераход яе на камерцыйны разлік азначаў бы хуткае знікненне ўсяго, «што гарыць».



Зразумела, што страты ад такіх неабходных для жыцця прадпрыемстваў кампенсуюцца за кошт бюджэтаў розных узроўняў. Для іншых жа, большых па колькасці (вось яна, прырода капіталізму!), прыбытак з'яўляецца альфай і амегай усяго існавання. Для іх страты – смерць. А ў нас, цяжка паверыць, стратнае гаспадаранне – норма. Прынамсі, у Магілёўскай вобласці кожнае другое прадпрыемства стратнае. Чаму ж яны існуюць? А таму, што на самой справе з'яўляюцца дзяржаўнымі, іх страты пакрываюцца за кошт сродкаў тых прадпрыемстваў, якія яшчэ неяк зводзяць канцы з канцамі. З гэтай нагоды можна сказаць, што ў нас няма асобных фабрык і заводаў, а ёсць адзіны калгас з адзіным старшынёй. Можа яно і добра. Але ж у гэтым «калгасе» (народная гаспадарка ў цэлым) сума стратаў ужо перавышае суму прыбыткаў. А гэта азначае, што банкрутам становіцца ўся эканоміка ў цэлым. А калі так, то нічога не застаецца, акрамя друкарскага станка.

Гэта як тэндэнцыя. Але ж улады не да ўсіх ставяцца аднолькава. Таму ў прамысловасці зарплату амаль заўсёды выплачваюць у належныя тэрміны, нягледзячы на тое, як працуе тое ці іншае прадпрыемства. Паважаюць пралетарыят. Мо таму, што баяцца масавых хваляванняў. А на калгаснікаў – ніякай увагі. Тут заробкі ў 2-3 разы ніжэйшыя, чым у прамысловасці, а на сельскую гаспадарку прыпадае да 4/5 усёй запазычанасці па выплаце. Можна сказаць, што сялянства ўжо цалкам выключанае з таварна-грашовых адносінаў і вернутае ў стан дакапіталістычнай натуральнай гаспадаркі. Яны існуюць самі па сабе і амаль ніякага дачынення да дзяржавы не маюць.

Аб гэтым сведчаць лічбы. З 8 мільярдаў рублёў, якія налічаныя як заробак у калгасах у сакавіку, выплачана толькі 3,4 мільярда. Такім чынам, доўг за сакавік склаў 4,6 мільярда. Да гэтай лічбы трэба дадаць амаль 2 мільярды, што не выплачаныя за папярэднія месяцы. Такім чынам атрымоўваецца, што рэальная зарплата калгасніка складае не 50% ад зарплаты ў прамысловасці, а недзе каля 1/10. А гэта, як разумее кожны, хто жыве на зарплату, ужо не беднасць, гэта натуральная галеча.

Па-добраму, сялянам, якія фактычна жывуць у іншай ад астатніх краіне, даўно патрэбен і свой уласны прэзідэнт. Дзяліў жа некалі Хрушчоў райкамы на прамысловыя і сельскія.

Ці ўзяць беспрацоўе. У мінулым годзе, дарэчы, самым багатым у гісторыі вельмі багатай Амерыкі, ЗША змаглі знізіць узровень беспрацоўных да 3%. Гэта паказчык, які сведчыць аб эканамічным росквіце і росце дабрабыту насельніцтва. У нас беспрацоўя ўвогуле амаль няма (2,1% эканамічна актыўнага насельніцтва), а дзе тыя росквіт і дабрабыт? Так працуем, што сябе пракарміць не можам?

Працуем кожны па-рознаму. Ганяемся за «халтурамі», за «лішняй капейкай». Ды нават бег на месцы не атрымоўваецца. Гэта засведчыў нават новы прэм'ер Уладзімір Ярмошын. У праграме дзейнасці яго ўрада запісана, што праз пяць гадоў рэальныя заробкі падвысяцца ў 1,3-1,4 раза. Выходзіць, што ў сярэднім замест цяперашніх 40 долараў будзем атрымоўваць 50-60. Але ж чатыры гады таму сярэдні заробак дасягаў 100 долараў. Вось так, здаецца, бяжым. Куды? ■

САЦЫЯЛОГІЯ

# Большинство не одобряет экономический курс

Результаты опроса, проведенного НИСЭПИ в апреле 2000 г. (опрошено 1.495 человек, предельная ошибка репрезентативности не превышает 0.03), в очередной раз показали, что подавляющее большинство населения предпочитает нормальную рыночную экономику. Три года назад рынок с различной степенью государственного вмешательства выбирало чуть менее двух третей опрошенных (65.4%). Сегодня за него высказалось почти три четверти (74.1%). Численность же почитателей социалистического планового хозяйства за это время уменьшилась на 7.6%.

На этом фоне явно лицемерными выглядели недавние заявления А. Лукашенко в нижней палате о правильности выбранного им экономического курса, который, якобы, поддерживается всем населением. «Палатники» рукоплескали, наглядно демонстрируя отношение к мнению своего электората.

А электорат, между тем, достаточно осознанно предпочитает именно рыночную экономику, а не «рыночный социализм». Так, вопреки Лукашенко и его «экономистам», 53.1% населения считает частную собственность – важнейшее условие рыночной экономики – более эффективной, чем государственную. Сегодня 73.9% населения уверено, что граждане страны должны иметь право частной собственности на землю.

Среди приверженцев рыночной экономики – опять же вразрез с А. Лукашенко – постоянно возрастает доля сторонников ее либерального варианта, т.е. варианта с незначительным государственным регулированием. В этом, безусловно, большая «заслуга» наших властей: их активная деятельность по усилению экономической роли государства заметно усложнила хозяйственную жизнь, наплодила тьму чиновников, контролеров и милиции, ввела массу лицензий, сертификатов, разрешений, пошлин, высвечивая старательно скрываемые последствия государственного вмешательства в экономику.

Улучшение экономической ситуации в стране за последний год заметило только 7.0% респондентов, ухудшение отметили 64.8%. Личное материальное положение за этот же период ухудшилось у 63.3%.

Сегодня 68.2% населения живет за чертой бедности – душевые доходы за март текущего года не превысили бюджета прожиточного минимума. Скромный даже по польским меркам достаток в 100 USD на душу в месяц имеют всего 1.8% респондентов!

Весьма интересно, что взгляды большинства электората прямо противоположны незыблемым для А.Лукашенко основам проводимой им экономической политики. Так, 68.2% опрошенных считают, что было бы правильно увеличить зарплаты, пенсии, пособия, но за жилищно-коммунальные услуги и общественный транспорт платить полную цену. Подавляющее большинство респондентов (74.3%) считают, что для улучшения экономической ситуации в стране необходимо ускорить проведение рыночных реформ, содействовать частному предпринимательству, снизить налоги (за – 92.2%), сократить расходы на оборону и производство вооружений (за – 60.9%), прекратить финансовую поддержку убыточных предприятий (за – 69.6%).

Поэтому неудивительно, что электорат уже хорошо понял, кто виноват в экономических проблемах страны: 42.1% считают, что вина лежит на правительстве, а 38.6% уверены, что виноват сам президент (что, собственно говоря, одно и то же). На третьем месте оказались местные власти (28.9%). На демократов, которые что-то «развалили», возлагают вину 2.6% респондентов. И даже злокозненный Запад, имеющий целью, по словам Лукашенко, «погубить синеокую», считают виновным только 4.6% респондентов.

**Попытка реализовать в масштабах отдельно взятой страны идеи «рыночного социализма» привела к заметному увеличению числа сторонников свободного рынка и уменьшению количества желающих отдать экономику в управление (разорение) чиновникам.** ■

НИСЭПИ




ГОЛАСНА

# Стыдоба

**Геннадий ВОРОПАЕВ,**
**35 лет, инженер, Минск**

«Два месяца прошло, а я никак не могу забыть, казалось бы, рядовой случай. Было это в конце марта. С сыном в мой выходной день выбрались на Вилейское водохранилище, притворялись, что рыбачим — отдыхали, в общем. А на обратном пути мой старинный «жигуленок» застрял в непролазной грязи. Попрыгали вокруг машины, посуетились — ничего не получается, увязли по полной программе. А неподалеку в поле трактор пофыркивает. Ну, я и пошел за подмогой. Долго тракториста уговаривать не пришлось. Подцепил тросом, рванул и освободил из грязевого плена. Всех делов на минут пятнадцать. Достаю бумажку, 1 миллион, протягиваю мужику со словами благодарности. А он, чудак, глаза выпучил и руку мою с деньгами отводит. Я не понял сначала, думал может мало даю? А он мне: «Ты что, парень, такими деньгами кидаешься! Это же моя зарплата колхозная за полмесяца...» Тут уж я чуть в осадок не выпал. До чего довели людей — скоро опять за «палочки» в колхозах трудиться заставят. А мужик поинтересовался, сколько в городе сейчас платят. Услышав, что миллионов 50-60 «старыми» вполне можно заработать, посмотрел на меня с удивлением, но без досады: «Хорошо вам в столице живется», — махнул рукой и пошел к трактору, так и не взяв денег. Ехали мы с сыном молча, от встречи с крестьянином не могли отойти. Я вспоминал, как жена, друзья жалуются на маленькие заработки, не подозревая, какие на самом деле бывают заработки у нас в стране. Сыну-подростку было неловко за те 7 миллионов, которые он выклянчил у меня накануне на концерт Гарика Сукачева и компании. А когда жене рассказал о дорожном происшествии — она и вовсе заплакала...» ■

АСОБА

# «Хочу» и «должен»

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Этот человек знает почти все европейские языки, три раза попадал в тюрьму, девять раз был судим, возглавляет одно из наиболее известных средних учебных заведений Беларуси, пишет стихи, был бит ОМОНом и на удивление своевременно перевел на белорусский язык Франца Кафку.**
**Лявон Борщевский воплощает в себе черты, характеризующие современного белорусского интеллигента.**



Один из самых «свядомых» белорусов Лявон Борщевский — наполовину русский. Его бабушка по материнской линии была эстонка, есть в роду и буряты. Различие между русским и белорусским национальными характерами, культурами и языками Борщевский видел в собственном доме с раннего детства. Максималистка-мать и спокойный, рассудительный отец... Сколько он себя помнит, мать критиковала отца за его белорусский язык. Лявону было непонятно, почему русский язык хороший и чем плох белорусский? Когда братьев освободили от изучения белорусского языка и такая же возможность предоставлялась ему самому, он от нее отказался и уже в восьмом классе начал самостоятельно переводить на родной язык зарубежную поэзию. Блестяще закончил полоцкую школу №10. В прошлом году ему с Рыгорам Бородулиным довелось выступать там со своими стихами. Директор школы на всякий случай с выступления сбежал. Впрочем, Борщевский к таким вещам уже привык и давно ни на кого не обижается.

Несмотря на «пятерочный» аттестат, медаль Борщевский почему-то не получил. И политических претензий тогда к нему вроде еще не было. Они появились несколько позже, когда он поступил в институт иностранных языков и на втором курсе возглавил забастовочный комитет студенческой стачки. В 1976 году любая забастовка была ЧП, разбираться приезжали даже с ЦК КПБ, но студенты держались твердо. Конечно же, обещаний, данных бастующим, никто не сдержал, и потом студентов потихоньку наказывали, «заваливая» на экзаменах и зачетах. Всех, кроме Борщевского, который за пять лет учебы не получил ни одной четверки. Неудивительно, поскольку в институт он пришел, зная немецкий, английский и польский языки, которые самостоятельно выучил еще в школе. В то время зарубежной литературы издавалось мало, а в Минске существовал книжный магазин «Дружба», где можно было купить хорошие книги на иностранных языках. Так и получилось, что Булгакова и Шукшина впервые Лявон Петрович прочел по-немецки.

После окончания института он вернулся в родной Полоцк.

Когда, еще будучи школьником, Борщевский занялся переводами, не думал о том, что они когда-нибудь будут опубликованы. «Игрушки»,— отмахивается Лявон Петрович. Этим несерьезным словом он называет свои переводы Гейне, Гете, Брехта, Галчинского, Ейтса... Когда учился в аспирантуре, ему заказали перевод Брехта. Первая книга вышла в конце 1988 года. Борщевский получил около 3 тысяч рублей. Впервые в его руках оказалась такая огромная сумма, и он не знал, что с ней делать. Дойдя до первой же сберкассы, положил их на счет, после чего испытал огромное облегчение.

За прошедшие годы Борщевский перевел на белорусский язык Эсхила, сборник рассказов Генриха Белля и его же роман «Биллиард в половине десятого», сборник Кафки, «Дон Карлоса» Шиллера, «Лягушек» Аристофана, сейчас принимает участие в подготовке сборника переводов Аполлинера. На возникающий время от времени вопрос о том, для чего и для кого надо сегодня переводить зарубежную литературу на белорусский, ответили сами читатели: вышедшая в 1996 году книжка сделанных Борщевским переводов рассказов и миниатюр Франца Кафки разошлась за месяц, более того, директор «Белкниги» признал, что она стала самой продаваемой книгой 1997 года.

Весь тираж романа Гриммельсгаузена «Симплицессимус — авантюрист» в переводе Василия Семухи исчез с прилавков магазинов всего за неделю, сразу став бестселлером и библиографической редкостью. Не говоря о «Божественной комедии» Данте в переводах Владимира Скоринкина, которую размели, как только она появилась на прилавках. Сейчас в серии «Книгосбор» вышел сборник произведений Гете, в книжных магазинах говорят, что он «идет хорошо».

Читатели — студенты, коллеги, национальная интеллигенция, которая, по мнению Борщевского, существует, но в виде очень тонкой прослойки. Причем, в количественном измерении ее здесь не меньше, чем, например, в Эстонии. Но когда в Эстонии издавалась Эстонская Советская Энциклопедия, на нее подписалось 25 тысяч семей. В Беларуси на выходившую в конце 90-х Белорусскую Советскую Энциклопедию подписалось около 700 человек.

«Белорусскую интеллигенцию народ не признает за свою, — говорит Борщевский, — и сегодня у нас можно унизить любого из этой тоненькой прослойки, и даже если это — Василь Быков, никто не станет его защищать. Американский фермер не станет плохо говорить о своем соотечественнике Хемингуэе, даже если он не читал его произведений. Белорусского крестьянина не так-то уж сложно уговорить выступить против Быкова, и к Старовойтову выражать солидарность и извиняться за свое молчание они будут ходить огородами и под покровом темноты». Возможно, это и есть те черты национального характера, которые когда-то так возмущали мать Лявона Петровича?

В политику его привел нонконформизм, который в свою очередь, по мнению Борщевского, достался ему от родителей.

В 1983 году произошло его знакомство с новополоцким литобъединением «Крыніца», куда входили Владимир Орлов, Сержук Соколов-Войюш, Винцесь Мудров, Ирина Жерносек, Наум Гальперович. Борщевский впервые столкнулся с белорусскоязычной средой. Будто кто-то открыл двери в новый мир, где на родном языке говорили взрослые и дети, он звучал в быту, на нем обсуждали новые книги, спорили... Там же он познакомился с Василием Семухой, Рыгором Бородулиным, Винцуком Вечеркой. Литобъединение «Крыніца» активно поддерживало «Народны Фронт». Но активистом БНФ Лявон Петрович тогда не был. Однако, во время выборов в Верховный Совет Беларуси в 1990 году ему предложили выдвинуть свою кандидатуру от БНФ. Так Борщевский попал в Верховный Совет. Но, душа его к политике не лежала, к работе в первом белорусском парламенте относился, как к своему гражданскому долгу. Когда встал вопрос выбора, то сомнений не было: не бросать же на самом деле ради политических баталий литературу и педагогику! Так и живет он сегодня между долгом и страстью, между политикой и литературой, между «хочу» и «должен».

— Лявон Петрович, как чувствует себя в тюрьме интеллигентный человек?

— Конечно, тяжело, когда приходят ночью, вытаскивают из теплой постели... Но после того, как нас били в Верховном Совете, тюрьма уже была не страшна. Когда тебя, человека, который переводил Эсхила, по учебникам которого в школе учатся дети, бьют так, что нет сомнений — хотят убить, а потом бросают, как дрова, в милицейскую машину, то на личном опыте понимаешь, что такое фашизм. После этого тюрьма уже всерьез не воспринималась.

В 1997 году перед съездом БНФ Борщевский снова попал за решетку. «Как раз в тот день в «ЛІМе» появилась подборка моих переводов стихов Булата Окуджавы, — вспоминает он. — Друзья нашли способ сообщить мне об этом, передав кусок сала, завернутый в номер со стихами. Было очень приятно, и сокамерники с публикацией поздравили. Там к образованным и политическим традиционно относятся с уважением. Тюремный дискомфорт способен раздавить любого, но когда сидишь не один, то понимаешь, что все страдают так же, как и ты, а трудности — они всегда делятся, а не множатся».

Сидел Борщевский, по его словам, мало — всего три раза. Зато судили его девять раз. На последнем суде в качестве свидетеля выступала профессор кафедры зарубежной литературы Ирина Шабловская. Сам Борщевский на свои отсидки смотрит философски, говоря, что как ни верти, но Окрестино все же несравненно комфортабельнее Сиблага. Основания для этого есть, поскольку предыдущие поколения белорусских переводчиков уничтожались физически: знание иностранного языка автоматически означало связь с иностранной разведкой. То, что сегодня переводческая деятельность не представляет непосредственной угрозы для жизни, по мнению Борщевского, говорит о том, что процесс демократических преобразований в обществе шагнул далеко вперед. Ну а то, что переводчику Эсхила могут запросто набить морду в Овальном зале Дома правительства, он относит к издержкам процесса демократизации. Борщевский существует в параллельных мирах: в одном — преподавание в лицее, кропотливая работа над переводами, политика, суды, тюрьма, в другом — Гете, древнегреческая поэзия, рубаи, которые он читает на языке оригинала...

Мыслей об эмиграции у Лявона Петровича не возникает, хотя с такой квалификацией за границей он смог бы зарабатывать несоизмеримо больше. И предложения уехать поступали неоднократно. Однако, он от них отказался, потому что не представляет для себя жизни за пределами Беларуси. Впрочем, при желании он смог бы решить свои финансовые проблемы и дома. Переводить детективы и дамские романы без сомнения прибыльнее и проще, чем Аристофана и Эсхила... Но он делает только то, к чему лежит душа, и считает себя счастливым человеком, потому что в восьмидесятые даже не мечтал о том, что так много удастся сделать в девяностые.

Борщевский глубоко уверен в том, что у Беларуси есть будущее. «Сила давления повышает силу сопротивления, это неизбежно, — говорит спокойно, уверенно, как о знании, а не о догадке. — И чем больше будут душить национальное сознание, тем быстрее и пышнее оно потом расцветет».

Всех людей он делит на две категории: тех, кто старается для себя, и тех, кто что-то делает для других. «Я — человек, который ради великой цели способен на все. Я никому ничего не должен, никого ни о чем не прошу и все, чего достиг, — добился собственными силами», — говорит умудренный опытом политической борьбы филолог и переводчик Лявон Борщевский. ■

# Пярэспа –



Разбурэнне гістарычнага помніка XIX ст. – бісквітнай фабрыкі

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Пярэспа – рачулка, якая цяпер не існуе, левы прыток Свіслачы. Паводле легенды, менавіта тут стаяў млын Мянеска. Разам з тым Пярэспа – назва аднаго з гістарычных раёнаў сталіцы. На жаль, лёс гэтай старажытнай мінскай мясціны (тэрыторыя паміж гасцініцай «Беларусь» і Свіслаччу) у найноўшай гісторыі трагічны. У апошнія некалькі гадоў яе проста ў самым літаральным сэнсе зраўнялі з зямлёй. Хоць усё магло і павінна было быць зусім наадварот.**

Замест захаваўшайся ў гэтым раёне колішняй бісквітна-паліграфічнай фабрыкі, пабудаванай яшчэ ў 1895-ым, тут збіраліся ўзвесці Культурны нацыянальны цэнтр. Дарэчы, у 1991 годзе на апошнім усесаюзным архітэктурным конкурсе адмысловы праект ягонага будаўніцтва быў прызнаны лепшым, а члены экспертнага журы нават звярнуліся ў тагачасны Савет міністраў СССР з просьбай паспрыяць з'яўленню ў беларускай сталіцы падобнага комплексу. Паводле ажыццяўлення праектнага плана, 4 гектары абшару запаўняліся разнастайнымі аўтэнтычна стылізаванымі па вонкавай архітэктурнай форме, як яны выглядалі ў мінулым, будынкамі. Наўкола меркаванай двухяруснай плошчы Часу задумвалася зладзіць цэлы архітэктурны ансамбль з выставачнага павільёна, гандлёвага цэнтра, майстэрняў народнай творчасці, шыкоўнай гасцініцы, рэстарацыяў беларускай кухні і нават беларускага народнага тэатра са сцэнай, якая б выходзіла да ракі. Назіраць за спектаклямі можна было б, напрыклад, з лодак ці з унікальнага моста ўздоўж ракі. Між іншым, гэты яшчэ пражэктавы тэатр ужо прыглядалі сабе ў якасці творчай студыі і «Песняры», і «Сябры». Ды мала які тэатральны калектыў мог там размясціцца. Пярэспа павінна была стаць месцам адпачынку і культурнага жыцця не толькі мінчукоў, але і турыстаў. Тым больш што зусім побач знаходзяцца ажно тры гасцініцы – «Планета», «Беларусь» і «Юбілейная». Нездарма Культурны комплекс павінен быў

МОЎНЫ ГЕНАЦЫД

# Дыскрымінацыя беларускай мовы ў войску

## Заява сакратарыята ТБМ

10 гадоў мінула з моманту прыняцця Закона аб мовах. Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай, але беларуская мова цалкам ігнаруецца ў беларускім войску. Вайсковая прысяга на вернасць Радзіме прымаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы. У беларускім войску адсутнічаюць статуты на родная мове. Вайсковая падрыхтоўка і ўся выхаваўчая праца вядзецца выключна па-руску, у беларускім войску не гучыць беларуская вайсковая песня. Адзіная вайсковая газета «Во славу Родины» – таксама рускамоўная. Паколькі бальшыня нашых хлопцаў набіраецца ў войска з невялікіх гарадоў і вёсак, дзе ў паўсядзённым жыцці дамінуе беларуская мова, лічым непрымальным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.




У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы патрабуе ад Урада Рэспублікі Беларусь зрабіць наступнае:

Стварыць у кожнай вайсковай частцы беларускамоўныя батальёны, для кіравання імі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для правядзення выхаваўчай працы і вайсковай падрыхтоўкі;

перакласці на беларускую мову вайсковыя статуты;

забяспечыць усе вайсковыя часткі тэкстам прысягі на беларускай мове, і ўрачыстасці з нагоды прыняцця навабранцамі прысягі на вернасць Радзіме праводзіць на мове тытульнай нацыі нашай краіны;

узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу;

надаць газеце «Во славу Родины» статус двухмоўнай і прадугледзець, каб не менш за 50% матэрыялаў друкавалася па-беларуску. ■

# Новая магіла старога Мінска



Праект Культурнага цэнтра на Пярэспе на месцы бісквітнай фабрыкі

увайсці ў гэтак званае Залатое кола Беларусі. Меркавалася, што рэканструяваная Пярэспа стане кампазіцыйным працягам Траецкага прадмесця і, як вынік, часткай гістарычнага цэнтра Мінску.

Кіраўніком праекта аднаўлення Пярэспы быў вядомы архітэктар Леанід Левін, аўтар праектаў узвядзення станцыі метро «Плошча Незалежнасці», будынка, дзе зараз месціцца міністэрства замежных справаў, помніка Янку Купалу. Разам з тым на левінскі рахунак часта адносяць ганебную перабудову напрыканцы 60-ых аднаго з ацалелых будынкаў колішняга іезуіцкага калегіюма на плошчы Свабоды, дзе цяпер месціцца сярэдняя музычная школа. Архітэктар даводзіць, што ён да гэтага аніякага дачынення не мае, а што гэта справа архітэктара-аднапрозвішчніка Іосіфа Левіна. Да таго Леанід Левін таксама адзін з аўтараў праекта мемарыяльнага комплексу Хатынь.

Напачатку здавалася, што ажыццяўленне ідэі стварэння Культурнага цэнтра пройдзе без праблемаў. Леанід Левін успамінае, што падтрымка, у тым ліку і фінансавая, да сярэдзіны 90-х з боку тагачасных міністэрства культуры і Мінгарвыканкама была вельмі значнай. З'явілася некалькі замежных інвестараў – немцы, італьянцы, расейцы, бельгійцы, галандцы. Быў нават зроблены нулявы цыкл усіх запланаваных рэканструкцыйных работ, гэта значыць, узведзеныя фундаменты. На тое пайшло каля 500 тысяч долараў. Але паступова са згортваннем эканамічных пераўтварэнняў у краіне замежныя фірмы пачалі адмаўляцца ад удзелу ў праекце, названым, дарэчы, досыць сімвалічна – «Вытокі». У выніку будаўніцтва было прыпыненае да лепшых часоў. А творчы калектыў, які займаўся рэканструкцыяй, на тры гады кансервацыі праекта апынуўся ў ролі ахоўнікаў таго, што ўжо было зроблена. Вартавалі кожны камень, кожную цагелку. Але выгляд незавершанага будаўніцтва, «разваліны», некаму, хто часта праязджаў у гэтым раёне, дужа не падабаліся.

Спачатку зруйнавалі бісквітную фабрыку, а потым сталася так, што «магільшчыкам» Пярэспы стаў... Аляксандр Пушкін, калі летась да 300-годдзя з дня нараджэння расійскага паэта ў Мінску надумаліся паставіць яму помнік. Маскве прапанавалі ажно 16 мажлівых месцаў для гэтага. Натуральна, Пярэспа не называлася. Але, кажуць, маскоўскі мэр Лужкоў для выбару месца адмыслова сам праехаўся па нашай сталіцы. Разам з намеснікам галоўнага архітэктара Масквы Грыгор'евым, дарэчы, колішнім галоўным архітэктарам Мінска, які падчас працы ў нас выступаў супраць адбудовы Траецкага прадмесця і Верхняга горада, прапаноўваючы ўсё проста знесці.

У выніку помнік, зроблены, між іншым, гэтым самым Грыгор'евым, паставілі менавіта ў пярэспаўскім раёне, зусім трохі адсунуўшы яго ад таго месца, дзе павінна была паўстаць рэканструяваная архітэктурная забудова. А перад адкрыццём металічнай пушкінскай выявы, усё, што было зробленае па праекце «Вытокі», каб не псавала краявід з паэтам, проста засыпалі зямлёй. Зараз там траўка, сцежкі ды лавачкі. Але, калі так неабходны быў гораду Пушкін, то чаму, як кажа Левін, нельга было дзеля гэтага ўзяць якраз прадугледжаную праектам аднаўлення Пярэспы кампазіцыю «Пушкін і Міцкевіч» скульптара Анікейчыка. А так помнік стаіць «на касцях беларускай гісторыі». На жаль, недастаткова пратэстнай была рэакцыя творчых сталічных колаў. Леанід Левін у якасці належнага прыкладу абароны прывёў падзеі вакол Чырвонага касцёла, які ў свой час хацелі знесці і пабудаваць там кінатэатр «Кастрычнік», які зараз знаходзіцца каля Акадэміі навук. Тады інтэлігенцыя касцёл адстаяла.

У прынцыпе, тое, што Пярэспу схавалі пад зямлёй, не значыць, што на згаданым праекце назаўсёды пастаўлены крыж. Да яго рэалізацыі можна вярнуцца пры жаданні ў любы момант: адкапаць і працягнуць будаўніцтва. Тым больш што апісальныя характарыстыкі кожнага засыпанага аб'екта, уяўляючага сабой каштоўны архітэктурны помнік, ёсць. Усё можна аднавіць. Палякі аднавілі ж па фотаздымках сваё Старэ Място. Вось толькі Пушкін тады будзе там глядзецца абсалютна недарэчна, і давядзецца яго пераносіць куды-небудзь на аднайменны праспект.

На тэму пахавання Пярэспы Л.Левін дагэтуль гаворыць з відавочным болем:

— Гэта не столькі рана мая як галоўнага архітэктара праекта і ўсяго творчага калектыва, які ім займаўся, колькі рана, нанесеная беларускай гістарычнай спадчыне наогул. Тут ёсць чым занепакоіцца. На маю думку, у архітэктурным плане Мінск – цікавы горад. Але мы гэтага не цэнім. Абыходзімся з імі як дзікуны, да якіх патрапляюць каштоўнасці, а яны іх раскідваюць. Тым больш калі прафесіяналы – гісторыкі, археолагі, рэстаўратары – кажуць, што гэтага нельга рабіць. ■



Пад гэтым пагоркам пахаваныя 500 тысяч долараў

ВЫСТАВА

# Фотография из машины

**Татьяна НОВИКОВА**

**Так называется экспозиция галереи визуальных искусств «Нова», которая открылась 28 апреля в центральной библиотеке имени Янки Купалы и продлится до 22 мая. Экспонированы работы трех авторов: Владимира Козлова, Даниила Парнюка и Валерия Савульчика, куратор проекта — Алесь Давыдчик.**

Этот фотопроект обращается к теме Машины, забытой со времени популярности Станислава Лема и Умберто Эко. Суть данной интеллектуальной манипуляции «про-машина» проста: представить метафизический и гиперболизированный образ. Машина не существует в предметной реальности либо существует как Бог. Это принимается на веру либо доказуемо посредством сложных умозаключений. Неважно, Машина сконструирована и запрограммирована человеком либо принесена инопланетянами.

Умберто Эко и Станислав Лем обыгрывали в своих текстах этот образ. Часто он подавался с иронией. Станислав Лем в своей «Сумме технологии» проводит параллель между Машиной и живым существом, биологическим видом, который, по Дарвину, эволюционирует, проходя стадии естественного отбора и так далее. В романе Умберто Эко «Маятник Фуко» Машина, названная Абулафией, занята поиском Имени Бога. Ирония уместна, поскольку автор прекрасно представлял, насколько смешно будет выглядеть образ мыслящей Машины на основе процессора 386 и программы *Word* спустя лет 10 после выхода в свет его книги.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Во внехудожественной реальности Машина существует как материальный объект — «сумма технологии» и как собирательный образ. Она наделена человеческими свойствами, у нее наша логика и особенности мышления. Машина постепенно персонифицируется, присваивая достижения человека. Во многом она «лучше», рациональнее человека, однако обслуживающая функция за ней остается, она по-прежнему на вторых ролях.

Кураторы фотопроекта отнеслись к Машине по возможности серьезно. Действительно, на смену сложному фотографическому процессу приходит божественный ящик, который совмещает стадии проявки, печати и так далее. Человеку остается все меньше места — у художника больше нет фотолаборатории. Поэтому авторы, как бы раздосадованные таким положением вещей, предлагают Фото-Машине, если она такая умная, самой выбирать ракурсы.

У авторов экспозиции Машина умеет видеть и склонна к художественному творчеству. Вспоминается сразу два экзерсиса на эту тему: часто мелькающий в прессе образ слона-художника и фраза героя одного из радикально-художественных произведений московского художника Олега Мавроматти: «В раю *все* ходят голые и занимаются художественным творчеством».

Эта экспозиция — одна из серии выставочных проектов «Аспекты современной белорусской фотографии». Любопытно, что к участию приглашаются только независимые авторские проекты. Галерея сотрудничает с фотохудожниками по принципу собственного предпочтения. Приятно, что там не стало стереотипных идей с академическим подходом к фотографии и ее предмету. Идеи часто неожиданны: «ландшафт тела, тело ландшафта», «фотомашина» и так далее.

Критики современного искусства употребляют слово «оптика» для обозначения видения, особого зрения художника. Так вот, у экспозиции чисто машинная оптика, как мы ее себе представляем. То есть кажется, что это творчество Машины. Заметно сочетание динамики и статики, «машинный формализм». И поскольку экспозиция составлена не просто из хороших работ, но и производит подобное впечатление, то это говорит о том, что проект удался как концептуальный. ■

КІНО

# Изнанка тишины

**Наталья РАДИНА**

**14 мая в городе Галифакс (Канада) открылся международный кинофорум ИНПУТ. Беларусь на нем будет представлять режиссер Карина Антипенко с фильмом «Лицевая. Изнаночная...»**

Нынешние телевизионные продюсеры, исповедуя принцип «публика – дура», заполонили экран бесконечными сериалами и астраханскими «Все будет хорошо!». Эта масс-культура, ориентированная на подростков, оказалась способна генерировать примитив даже у достаточно взрослых людей.

Карина Антипенко сняла совершенно иной фильм. И его эстетичность, и отличие от масс-культуры хотя бы в том, что он заставляет зрителя думать. «Лицевая. Изнаночная...» – фильм документальный, он создан на ощущениях мира молодой женщиной, живущей в мире насилия. Это своего рода поток сознания слабой женщины, стоящей на минском асфальте, ошеломленной жестокостью и равнодушием мира. В сущности, это фильм о всех нас, боящихся друг друга, о нашем постоянном сознательном и подсознательном страхе, что тебя в любой момент могут ударить, причинить боль, надругаться над душой и телом... Это фильм о нашем равнодушии, которое превращает всех нас в потенциальные жертвы, но готовые также собственноручно или собственнодушно причинить боль другому.

Кинофильм «Лицевая. Изнаночная...» был отобран специалистами Всемирной конференции общественного телевидения (ИНПУТ), действующими под эгидой ООН, как наиболее интересная в творческом и тематическом отношении белорусская работа. И, действительно, на унылом фоне нашего кинематографа творчество Карины Антипенко кажется экзотическим цветком, который в суровых условиях нашего полуживого документального кино может зачахнуть без заинтересованного к нему отношения, как это уже произошло со многими одаренными творческими личностями. Но этими днями творчеству Карины Антипенко предстоит пройти через суд международной кинематографической элиты в Канаде. ■

КНІГАРНЯ

# Ваўкалак сярод навукоўцаў

Андрэй ВЯРЫГА




**А.Ненадавец. За смугою міфа. Мн., Беларуская навука, 1999**

Гэтую кнігу, якая выйшла ў свет напрыканцы мінулага года, не трэба купляць, а тым больш чытаць людзям, якія пазбаўленыя творчага ці рамантычнага ўяўлення, не баяцца ноччу куста на дарозе, не вераць у адухоўленасць расліннага свету, не чуюць мелодыі суму ў воўчых спевах зімой. Яна не пераканае іх у адваротным. Затое кніга будзе надзвычай цікавая і карысная ўсім, хто адораны названымі вышэй якасцямі, – ад лірычных паэтаў і прыхільнікаў старажытных політэістычных вераванняў да зацятых абаронцаў лясоў і азёраў і школьных настаўнікаў, якія навучаюць дзяцей павазе да народнай культуры.

Кніга «За смугою міфа» — літаральна першая спроба тэарэтычнага даследавання найбольш старажытных пластоў беларускай міфалогіі. Апісальнага матэрыялу па нашых міфах назапашана шмат, аднак распрацовак яго ў гістарычным аспекце, выяўлення ягоных адметнасцяў пакуль не было. Нашая міфалогія, як і ўсе астатнія славянскія, захавалася ў скажэннях, з уплывамі хрысціянскай рэлігіі (напрыклад, прыстасаванне царквой сваіх святаў да ўсталяваных у неправядныя часы народных каляндарных засланіла амаль увесь пантэон галоўных язычніцкіх багоў). Пра значнасць гэтага ўплыву сведчыць і навуковая практыка: усё чарадзейнае насельніцтва фальклорнай



прасторы аднесена вучонымі да віду «дэманалагічных істотаў», хоць дэманалогія – менавіта тая з навукаў Сярэднявечча, якая вывучала «нячысцікаў» як вытворчасць Сатаны, антытэзу Божага ў хрысціянстве.

У кнізе падрабязна разглядаюцца наступныя героі фальклору на чарадзейныя сюжэты – вадзянікі, лесавікі, дамавікі, ваўкалакі. Для кожнай з гэтых істотаў аўтар прасочвае генезіс пераходу з высокапастаўленых боствў на нязначную «пасаду» звычайнага нячысціка, падае шырокі сінанімічны шэраг назваў, апісвае сферу іхняй улады, народныя ўяўленні пра знешні выгляд, паводзіны, стаўленне да людзей, а таксама пералічае збор павер'яў, якіх народ трымаўся ў адносінах да гэтых стварэнняў, якія тоўпіліся навокал. Як слушна заўважае А.Ненадавец, «яны не проста захаваліся, а па-ранейшаму працягваюць жыць паўнакроўным жыццём». Праўда, у іхняй характарыстыцы адмірае тое, што паступова становіцца архаічным, непраўдападобным, затое дадаецца нешта ад сучаснага побыту людзей».

Існаванне ў сённяшніх вераваннях людзей гэтых фальклорных персанажаў засведчанае даследніцкай працай аўтара ў 19 раёнах Беларусі – ад Піншчыны да Мсціслава. Дарэчы, гэтыя жывыя сведчанні нашых сучаснікаў моцна ўражваюць, бо з нечаканага боку характарызуюць сучасную псіхалогію грамадства, якая пэўным чынам не супадае з тым, што можна думаць, назіраючы знешнія праявы тэхнакратычнай культуры. Пералічаныя вышэй міфалагічныя персанажы, знаёмыя кожнаму з дзяцінства па казках і легендах, маюць нагэтулькі адлеглае ад нас паходжанне, што нам нават цяжка яго асэнсаваць. Некаторыя з іх, прыкладам, ваўкалак, спадарожнічаюць чалавеку з ранняга палеаліту, адлюстроўваючы не столькі фізічны жах перад драпежнікам, колькі ў зразумелых вобразах метафізічны жах перад невядомасцю і жорсткасцю жыцця наогул.

З гэтае прычыны тут прысутнічае яшчэ адна цікавая з'ява: глыбокая старажытнасць трымае ад нас у таямніцы імёны магічма самых геніяльных людзей, якія прыходзілі на белы свет і здзейснілі сваё прызначэнне. Іхнае ўяўленне стварыла багаты рэлігійны і міфалагічны свет, які мае моц захоўвацца лепш за магутныя дзяржавы. Хто былі гэтыя людзі – нам ніколі не даведацца. Але, дакранаючыся міфа пра валадара кожнага дома, пра ўвасобленую ў ваўкалаку дылему Дабра і Зла, варта ўзгадаць, што за яго тысячагадовай смугой стаяць геніі, а ў старажытных казках і паданнях жыве рэдкая мудрасць прытчы. ■

# Американский Путин и американский Ельцин

Трофим ЛОБАЧЕВ

**В Америке наклевывается свой Путин. В том смысле, что именно этот человек является почти верным победителем президентской избирательной кампании. Хотя там до ее окончания еще полгода (выборы в ноябре), его победе может помешать лишь что-то экстраординарное. Есть и свой «Ельцин», то есть тот, от кого зависит успех «Путина».**

Следующим президентом Америки, скорее всего, станет республиканец Джордж Буш-младший. С уверенностью примерно на 90% об этом можно говорить уже сегодня. Чтобы переверборвать Фортуну на свою сторону, его оппоненту — вице-президенту демократу Альберту Гору — нужно совершить политическое чудо. Либо в биографии Буша должно вскрыться нечто, по своей негативной значимости близкое к изнасилованию с отягчающими последствиями.

Главным фактором победы для Буша, судя по всему, станет верно выбранный напарник по президентской гонке — кандидат в вице-президенты. Со своим напарником, похоже, Буш уже определился и хотел бы видеть весьма и весьма популярного республиканца, ветерана Вьетнама Джона Маккейна, нынче сенаторствующего от Аризоны. Пару Буш–Маккейн, если она все же состоится, демократам побить будет крайне сложно. У Альберта Гора пока даже близко нет столь же популярного кандидата в вице, который помог бы ему завоевать на сторону демократической партии самую большую часть американского электората — так называемых независимых избирателей (то есть не голосующих всегда за республиканцев либо всегда за демократов).

Губернатор Техаса Буш-младший и сенатор Маккейн, нещадно поливавшие друг друга словесными помоями в процессе проведения первичных выборов в республиканской партии, публично примирились. Проведя в Питтсбурге (Пенсильвания) совместную пресс-конференцию, они говорили об общих ценностях и общих целях. По сути Буш там и объявил, что именно Маккейна он хотел бы видеть своим вице-президентом. Сенатор не возражал, публично впервые – даже шесть раз подряд – произнес, что он поддерживает Буша. Чем навел всех на подозрение, что вся его очень агрессивная избирательная кампания на праймериз была рассчитана именно на то, что Буш сделает сенатору-популисту предложение, от которого тот не станет отказываться. Публичному братанию предшествовала полуторачасовая встреча двух ведущих политиков республиканской партии без свидетелей.

Маккейн, который продолжает оставаться весьма популярным, несмотря на выход их борьбы за пост президента после ряда поражений на праймериз (по подсчетам социологов, если бы он решил баллотироваться как кандидат от третьей партии, то собрал бы процентов 20 голосов), дал Бушу то, чего тому не хватало до сих пор, — поддержку многих независимых избирателей.

Стиль Маккейна – откровенный популизм, игра на антиэлитарных настроениях обывателя, он работает под простачка, который не любит вашингтонских бюрократов и вообще бюрократов и политиканов, который якобы говорит то, что думает. Подобные настроения в Америке в последнее время весьма популярны, в связи с чем политологи давно уже предсказывают появление весьма сильной третьей партии. Партии пока нет, но «третий» кандидат на протяжении всех 90-х годов показывает очень неплохой результат.

На штатном уровне живым символом «третьего пути» стал нынешний губернатор Миннесоты Джесси Вентура, бывший борец и один из нынешних лидеров независимой партии Роса Перо. Маккейн же, формально оставаясь республиканцем, тоже «косил» под независимого.



Теперь республиканцам предстоит сеанс политического скрещивания ужа с ежом. Особенно трудно будет совместить требование Маккейна провести кардинальную реформу системы политического финансирования с тем, чтобы освободить политику от влияния «денежных мешков» (сам он принимал только мелкие – народные – пожертвования и вообще вел типичную «низовую», народную кампанию, крайне дешевую). Главное требование Маккейна — запретить неограниченные пожертвования в пользу партий — так называемые «мягкие» деньги, то есть не адресованные вроде бы конкретным кандидатам (это уже давно запрещено, тут действует лимит в 1.000 долларов), но на самом деле являющиеся адресными. Бушу это — как кость в горле: он-то бьет все мыслимые рекорды по величине предвыборного бюджета и поддерживаем едва ли не всем цветом американского бизнеса. Но — надо так надо.

Пока что Маккейн еще ломается и заявляет, что его пост вице-президента не сильно греет. То есть ситуация предстает таковой, что Буш еще должен Маккейна поуговаривать. Скорее всего, гон назрет к республиканскому конвенту — Маккейн нужен для победы республиканцам. Единственное, что может помешать главной американской политической сделке года, так это если в седовласой голове аризонца бродит мысль по поводу того, что, мол, Буш проиграет выборы без него, Маккейна, и тогда это расчистит ему путь для номинации от республиканцев в 2004 году.

Избирательная кампания Гора явно пробуксовывает: многие американцы считают его туповатым и занудой. ■

**Private «Type-Pict; Alt»**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Літаратурная ўзнагарода за сумленнае слова

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Прэмія, заснаваная беларускім часопісам «Arche», **«За сумленнае слова»** упершыню ўручалася днямі на сядзібе партыі БНФ. Аўтарытэтнае журы ў складзе вядомых пісьменнікаў, крытыкаў і грамадскіх дзеячаў мела досыць шырокі выбар разнастайных кандыдатураў на атрыманне прэміі. Гэта і Уладзімір Арлоў з Генадзем Сагановічам за кнігу «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», і радыё «Свабода» за праграму «Слова дня», ды шмат іншых.

Аднак узнагароду атрымаў гаспадар месца, дзе праводзілася мерапрыемства, старшыня БНФ Вінцук Вячорка. Выдаўцы і рэдактары часопіса, калі віншавалі яго, шмат казалі аб тым, як Вячорка сваёй сумленнай і шчырай палітыкай уплывае на развіццё сітуацыі на Беларусі.

Імпрэза выклікала цікавасць у самых разнастайных колах. Ды і не дзіўна: напрыканцы частавалі шампанскім. ■

СПОРТ

## Гульня разумных у дурня

Аляксей ШМЯЛЁЎ

Упершыню ў Мінску, і ўвогуле на Беларусі, на мінулым тыдні адбыўся чэмпіянат горада па гульні ў падкідного дурня. Арганізатарамі гэтага спартыўнага мерапрыемства сталі маладзёжная арганізацыя «Грамадзянскі Форум», газета «Маладзёжны праспект» і турыстычная фірма «Олірці», а прайшло мерапрыемства ў піўным рэстаране «Старое русла», які, акрамя таго, што прадаставіў памяшканне, яшчэ накарміў і напаіў удзельнікаў і журналістаў нямецкім півам.

Да ўдзелу ў спаборніцтвах былі запрошаныя вядучыя розных тэлепраграмаў першага беларускага канала і ды-джэі розных радыёстанцыяў Мінска, што вядуць вяшчанне на FM-частаце. Акрамя гульні, удзельнікам, якія аспрэчвалі галоўны прыз – турпаездку ў Чэхію, трэба было яшчэ і без перапынку «травіць» анекдоты.

У выніку ўпартай барацьбы па «алімпійскай» сістэме ў фінале вядучая праграмаў радыё «Рокс» Ірына Васільева перамагла журналістку з БТ Вольгу Ганчарык і заваявала галоўны прыз. ■

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1773 Нумар падпісаны ў друк 15/05/2000 (15:00) Наклад – 8.970